BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№11(47) Лістапад 1997 November Год выд. 5

**ПАМЯЦЬ** пра Слуцкі збройны чын заўсёды будзе з намі!!!






## БЕЗ НАДЗЕІ НА ПЕРАМОГУ...

### ДА ЎГОДКАЎ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

За гэтыя тры чвэрці стагоддзя адбылося столькі пераменаў у жыцці Беларусі, колькі іх, бадай, не было на такім кароткім адрэзку часу ніколі. Але сярод усіх пературбацый нашага стагоддзя не згубіліся тыя шэсць тыдняў, на працягу якіх змагаліся случакі. Шэсць тыдняў з лістапада і снежня, якраз у той час, калі паміраe прырода — на адчайнай, роспачнай вайне без аніякае надзеі на сваю перамогу.

Адно незразумела — як, адкуль узяліся гэтыя дзесяць тысяч случакоў, гатовых аддаць жыццё за волю й незалежнасць Бацькаўшчыны. У той час — войнаў, разрухі, неспакою — каму б не хацелася адпачыць, пажыць ціха, мірна (хай ужо хутчэй хоць чыя-небудзь улада ўсталюецца, але толькі без майго ўдзелу)? Ды яшчэ тады, калі беларуская ідэя, нацыянальная самасвядомасць толькі-толькі пачалі адраджацца на Беларусі. (Калі б зараз, не дай Божа, адбылося б што-небудзь падобнае, ці знайшліся б такія дзесяць тысяч?) Можна, вядома, казаць, што "вінаватая" ў гэтым была абвешчаная мабілізацыя, але не яна — галоўнае.

У бой ішлі ў асноўным простыя людзі: вяскоўцы, местачкоўцы. І гэта было ўжо не тое амаль шляхецкае паўстанне 19-га ст., калі такія ж сяляне здавалі царскім войскам змагароў. Беларуская ідэя паступова пераставала быць толькі інтэлігенцка-элітарнай, і сталася б, мусіць, да гэтага часу ўжо усеагульнаю, калі б случакі перамаглі.

Але надзеі на перамогу ў іх не было. Што маглі яны зрабіць супраць адборных частак Чырвонага Войска, якія пераможна ішлі на захад? Гэта было ўвогуле не рамантычнае паўстанне, што рыхтуецца тайна, канспіратыўна і ўсе чакаюць перамогі; людзі проста ішлі на вайну, на смерць, ведаючы, адчуваючы, што перамогі не будзе й быць не можа, спадзеючыся, магчыма, толькі на тое, што будуць прыкладам для нашчадкаў.

Хто сказаў, што наша незалежнасць не "асвечаная" крывёй? Куды ж тады дзець сотні тысяч беларусаў-патрыётаў, што былі забітыя падчас паўстанняў, дзвюх Сусветных войнаў, закатаваныя сталінскім рэжымам? Што, гэтага замала? І няўжо незалежнасць — нейкае паганскае божышча, якому неабходна прыно-



сіць ахвяры крывёю?

Хто сказаў, што мы зусім ужо слабая нацыя, не здольная амаль ні на што ў пабудове сваёй дзяржавы? На Зямлі — каля 5000 народаў і народнасцяў і толькі 200 дзяржаў. А гэта значыць, што мы ўваходзім у той элітарны працэнт, у лік тых, каму пашчасціла мець сваю дзяржаву.

Іншая гаворка — наколькі моцная цяпер Рэспубліка Беларусь і ці доўгім будзе яе век. На маю думку, існуе некалькі варыянтаў таго, у што можа трансфармавацца з часам РБ. Першы — усё будзе так, як ёсць цяпер, ці да ўлады прыйдуць лібералы (што зараз малаверагодна). Тады мы так і будзем жыць у Рэспубліцы Беларусь. Другі — мы далучаемся (ці нас далучаюць) да ўсходняга суседа. Тады — пераўтвараемся ў якую-небудзь аўтаномную рэспубліку ці Мінскую губерню (гэта не вельмі істотна). Трэці — пры ўладзе стануць нацыянальна арыентаваныя людзі. І тады ўжо ў іхнім асяроддзі паўстане пытанне вяртання дзяржаве, замест скампраметаваўшае сябе "РБ", гістарычна-рамантычнай назвы — Беларуская Народная Рэспубліка...

Угодкі збройнага чыну случакоў, змагароў за незалежнасць БНР, не прызнаныя і не могуць быць прызнанымі як свята цяперашнімі ўладамі. Атрымліваецца, што ў часы БНР беларуская ідэя жыла фактычна без дзяржавы, а цяпер дзяржава жыве фактычна без беларускай ідэі. Але, не зважаючы на гэта, дзень чыну адзначаюць беларускія нацыяналісты і на радзіме, і ў дыяспары. Ды не толькі яны.

Непрызнанае свята непрызнаных герояў. Яны ваявалі за дзяржаву, а дзяржава іх і ведаць не хоча. Але нічога, случакі, калі-небудзь вы ўсё ж такі пераможаце.

**Аляксей ШЭЙН**



## Шчыра вітаем магістра Васіля ПЛЕСКАЧА

з наступаючымі 82-мі ўгодкамі жыцця.

Спадар В. Плескач пасьвяціў многа гадоў свайго жыцьця ў працы для беларускай эміграцыі і Беларусі, будучы даўгалетнім старшынёю Аддзелу БАЗА ў Дэтройце і Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу на штат Мічыган.

Спадар Васіль Плескач — ведамы грамадзкі, палітычны, культурны і царкоўны дзеяч ды вялікі беларускі незалежнік і патрыёт.

Дарагі Васіль! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

## Восем тыдняў у турме

**СВАБОДА**

Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Лабковіч — мы пра Вас памятаем!..

**Актывісты «Маладога фронту» Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Лабковіч застануцца за кратамі Жодзінскага ізалятара. Суддзя Стаўбцоўскага суда Іван Дабрадзей не задаволіў хадайніцтва адвакатаў аб змяненні меры стрымання для хлопцаў на падпіску аб нявыездзе. *«Аргументы адвакатаў на мяне не паўплывалі. Я не знайшоў падстаў для таго, каб адпусціць Шыдлоўскага і Лабковіча пад падпіску. Пракуратура і следства ўсё робяць правільна»* — так пракаментаваў суддзя Дабрадзей сваё рашэнне карэспандэнту СВАБОДЫ.**



Нагадаем, што Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Лабковіч утрымліваюцца за кратамі ўжо восем тыдняў. Супраць іх узбуджана крымінальная справа па артыкулу «злоснае хуліганства». Яно, па версіі следства, заключаецца ў тым, што актывісты «Маладога фронту» размалявалі будынкі ў Стоўбцах антыпрэзідэнцкімі лозунгамі і нават сарвалі дзяржаўны сцяг, вывесіўшы замест іх бел-чырвона-белыя.

Аднак, як высвятляецца, даказаць гэта не так лёгка, як заявіць. Нездарма расследаванне не вельмі складанай справы цягнецца ўжо два месяцы і суправаджаецца даволі супярэчлівымі дзеяннямі прадстаўнікоў праваахоўных органаў. Напрыклад, хлопцаў невядома для чаго перавезлі са Стаўбцоўскага ізалятара ў Жодзінскі. Вось ужо два тыдні следчыя дзеянні з затрыманымі не праводзяцца. Незвычайным можна назваць і абыходжанне са «злоснымі хуліганамі». На працягу расследавання іх двойчы абяцалі выпусціць пад падпіску, але вызваленне так і не адбылося. Пры гэтым за два месяцы вязням ніводнага разу не дазволілі сустрэцца з роднымі. Узнікае пытанне: чаго дабіваюцца тыя, хто кіруе следчымі, суддзямі і пракурорамі? Ці не збіраюцца ўлады зрабіць з юнакоў своеасаблівых заложнікаў, каб на іх прыкладзе запалохваць удзельнікаў акцый апазіцыі?

Тым часам пратэсты грамадскасці ў сувязі са стаўбцоўскай справай не сціхаюць. Асабліва непакоіць той факт, што за кратамі ўтрымліваецца 16-гадовы Вадзім Лабковіч, які яшчэ не скончыў школу. *«Мы абураныя, што пытанне аб вызваленні Вадзіма Лабковіча замаруджваецца,* — пішуць у лісце пракурору Стаўбцоўскага раёна бацькі вучняў 11-га класа 95-й сярэдняй школы Мінска, дзе вучыцца Лабковіч. — *Завяршаецца першая навучальная чвэрць, усё бліжэй выпускныя экзамены. Як Вадзім будзе іх здаваць, калі не мае магчымасці атрымліваць веды?! Між тым права на адукацыю гарантавана канстытуцыяй РБ, і мы заклікаем не пазбаўляць гэтага права Вадзіма Лабковіча, а хутчэй вызваліць яго!»* — звяртаюцца да пракурора М.Шульговіч, А.Гарэцкі, В.Радзевіч ды яшчэ 25 бацькоў, якія паставілі свае подпісы пад гэтым лістом.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЗАРАЗ РАСКРАДАЕЦЦА ЎСЯ КРАІНА...

У Расіі пакуль створаны вельмі тонкі і вельмі агрэсіўны клас уласнікаў, якія займаюцца дзікай і жорсткай эксплуатацыяй сваіх наёмных рабочых. І гэтая эксплуатацыя ў шмат разоў перавышае ранейшую эксплуатацыю працоўных, якая ажыццяўлялася бюракратычным класам сацыялізму — партакратамі. Сённяшні клас уласнікаў нешматлікі: прыблізна каля паўтара мільёна чалавек, палова якіх з катэгорыі «купіў — прадаў». У асноўным гэта людзі, якія «палявалі» на ваўчэры, іншы раз наўмысна робячы так, каб прадпрыемствы станавіліся банкрутамі і іх лягчэй было «праглынуць».

У Канадзе з 30 мільёнамі насельніцтва ў мінулым годзе было выпушчана прадукцыі на 685 мільярдаў долараў. Велізарная Расія з яе 146 мільёнамі насельнікаў у той жа час выпусціла прадукцыі на 400 мільярдаў. Значыць кожны канадзец працуе ў 10 разоў эфектыўней, чым расіянін. У ЗША прадукцыйнасць працы ў сем разоў вышэй. Толькі адна Каліфорнія выпускае на 10 працэнтаў больш прадукцыі, чым уся Расія, а там усяго 27 мільёнаў жыхароў.

Што ляжыць у аснове эканомікі? Прадукцыйнасць працы. А расіянін працуе на 15 працэнтаў сваіх магчымасцяў. Таму што ён працуе не на сябе, а на пана.

Да ўсяго зараз раскрадаюцца не толькі грошы дзяржавы, зараз раскрадаецца сама дзяржава. Створаны такія спрыяльныя ўмовы для гэтага, што існуюць нават спецыяльныя банкі, куды вы можаце аддаць расійскія рублі, а праз дваццаць хвілін атрымаць «кэш». Прыносіце дзесяць мільярдаў рублёў — атрымліваеце два мільёны долараў у чамаданчыку. Якія ж гэта ўласнікі?! Сапраўдныя ўласнікі перш за ўсё думаюць пра будучыню і жывуць, займаючыся вытворчасцю, а не эксплуатацыяй нетраў і людзей.

Таму практычна мы не маем такога класа вытворцаў, класа распрацоўшчыкаў тэхналогій. Той, хто мае ідэі — не мае грошай. Хто гэтыя грошы знайшоў — заблытваецца ў бюракратычнай сетцы. Прыгадайце гісторыю. У Расіі было цяжкае становішча пры Кацярыне II у пачатку яе праўлення. І яна выдала загад: любы можа адкрыць якое заўгодна прадпрыемства, толькі паінфармаваўшы ўрад, без усялякіх дакументаў на дазвол...

Я лічу, тое, што адбываецца сёння, — не крах. Медыкі, асабліва на перыферыі, не маюць грошай ні на лекі, ні на рамонт будынкаў, ні на інвентар. Людзі прыходзяць са сваімі шпрыцамі, навалачкамі і падушкамі. Сённяшняя медыцына фактычна атрымлівае ад дзяржавы каля 7 мільярдаў долараў. Амерыканцы ж, напрыклад, трацяць адзін трыльён 200 мільярдаў. Таму мы маем у пяць разоў менш за неабходны мінімум. І зараз узо ставім перад урадам пытанне (і, мяркую, Дума пагодзіцца з гэтым), каб бясплатна аказваць толькі хуткую дапамогу, а ўсё астатняе — за грошы.

Медыцына — дарагая рэч. Напрыклад, каб выдаліць пухліну мозгу патрэбна 6 тысяч долараў (і гэта толькі пакрывае расходы), каб выдаліць пухліну страўніка — 4,5 тысячы, шунціраванне сэрца — 5 тысяч. Хто ж можа плаціць сёння такія грошы, калі ў заробак наёмнага рабочага не закладваюцца грошы на яго лячэнне? Там ёсць толькі на харчаванне, невялікую кватэру, крыху на адзенне і самы мізэр на культурныя патрэбы. А каб застрахавацца, трэба мець вялікія грошы (каля 2 тысяч долараў)...
Мы нацыя, якая выраджаецца і якая нагадвае мне Залатую Арду XIII—XIV стагоддзяў. Паглядзіце, якая была магутная цывілізацыя! Яна захапіла амаль палову Еўропы.

Аднак дзе зараз татара-мангольская нацыя? Засталася ў Манголіі, крыху на Волзе і ў Крыме... Яны жылі ў таталітарнай сістэме, дзе былі магутныя ханы, але ж знізу ад людзей не ішла ініцыятыва. У выніку нацыя адстала ў тэхналогіі, у развіцці і — распалася. Таму што тэхналогія — адзіная крыніца росквіту і чалавека, і дзяржавы. Такім жа чынам зніклі і шумеры, і вавіланяне, і майя.

Мы зараз ідзём абсалютна тупіковым шляхам. Расія распадаецца — спачатку на вялікія рэгіёны, потым на малыя. Усё гэта прыводзіць да нараджэння дробных княстваў, што неверагодна выгадна Захаду. Ім наш прамысловы, тэхналагічны патэнцыял не патрэбны. Яны самі гавораць, што ў нас дастаткова станкоў, каб вырабіць «шмоткі» для Расіі, аднак у нас не хапае энергіі і сыравіны. А 35—40 працэнтаў усіх сусветных запасаў сыравіны — у Расіі. І таму Расія, паводле іх глабальных планаў, павінна стаць толькі сыравіннай базай з таннай працоўнай сілай і вялізнай звалкай для адходаў...

Сёння Чарнамырдзін яшчэ нейкім чынам трымаецца, аднак і ён рана ці позна сыдзе, таму што і ён да канца разбурае краіну. Нам «вешаюць лапшу на вушы», што ў нас ідзе развіццё вытворчасці. Ніякага ўздыму няма. Гэта абсалютная хлусня. Мы кожны месяц на вытворчасці губляем паўтара мільярда долараў. Самалёт працягвае падаць, проста запаволена. А пад'ём — гэта проста недзе больш выпампоўваецца нафты, недзе больш прадаецца золата. Але ніякіх тавараў не вырабляецца. Сёння 80 працэнтаў прамысловых тавараў і 60 працэнтаў харчовых — заходнія. Уявіце, што нас перасталі карміць, — адразу ж будзе голад! Многія замежныя фірмы набываюць у нас добрыя такарныя, фрэзерныя станкі, а потым іх пераплаўляюць. Каб пазбавіць нас інструменту. І ўжо затым ты нічога не здолееш вырабіць і будзеш набываць да канца «ножкі Буша». Свае ж птушкафабрыкі разбураныя, і амаль ніводная не працуе...

«Звязда»

Так у скароце разважае расейскі акадэмік — Сьвятаслаў Фёдараў. А нашы "беларусы" крычаць: «Западную границу на замок... і даёш у адкрытую Расею...»

«НІВА»

# Апошнія патрыёты Народнай Польшчы

Мізэрны вынік на парламенцкіх выбарах кандыдатаў са спіска „праваслаўных славян", Яўгена Вапы з Беларускага саюза і Яна Сычэўскага з БГКТ чарговы раз пацвердзіў, што „нашы людзі" зусім не хочуць вылучацца сваей культурнай і рэлігійнай адметнасцю сярод польскага грамадства. Большасць назіральнікаў і каментатараў палітычнага жыцця на Беласточчыне звяртала найчасцей увагу на адсутнасць пачуцця нацыянальнай супольнасці тутэйшых беларусаў. Гаварылася і пісалася пра тое, што адзіны фактар, які нас спалучае, гэта праваслаўнае веравызнанне. Аказваецца аднак, што калі „нашым людзям" даецца магчымасць свабоднага выбару паміж кандыдатам, які нечым атаясамліваецца з Польскай Народнай Рэспублікай і праваслаўным ці беларусам, у пераважнай большасці прагаласуюць яны за першага, зусім не звяртаючы ўвагі на яго нацыянальнасць. Ядвіга Рудзінска з СЛД атрымала, напрыклад, у беларускіх гмінах амаль два разы больш галасоў, чым беларускі кандыдат у Сенат Міхал Кандрацюк. Абедзве кандыдатуры ў палітычным жыцці аднолькава малавядомыя.

Сімвалы перыяду ПНР прынцыпова выйграваюць тут з беларускімі і праваслаўнымі. Праграмы паасобных выбарчых камітэтаў не маюць вялікага ўплыву на вынік выбараў. Сацыялістычныя лозунгі Уніі працы астаюцца зусім незаўважальнымі сярод праваслаўнага электарату, які заўсёды лічыўся крайне левым. Праўдападобна не ліберальныя гаспадарчыя прапановы СЛД заваявалі прыхільнасць „нашых людзей", а хутчэй за ўсё туга па мінулай эпосе.

Народная Польшча стварыла беларусам шанц не толькі сацыяльнага і палітычнага авансу, але дала ім, як грамадзянам, усе правы, якія мелі палякі, а асабліва магчымасць без ніякага прыніжэння стацца палякамі. Наш люд, які па палітычных і гістарычных прычынах, не атрымаў дару пачуцця нацыянальнай супольнасці, не пратэставаў нават, калі адбіралі яму чарговыя элементы яго тоеснасці.

Ад канца XIX стагоддзя была ў нас заўсёды нацыянальная эліта, якая жыла ідэяй стварэння агульнабеларускай супольнасці, якая адпавядала б дэфініцыі сучаснага народу. Часам удаецца ёй з'яднаць для беларускасці пэўную частку грамадства, але зараз нейкія метафізічныя сілы пускаюць у рух такія разбуральныя працэсы, што свядомыя беларусы пачынаюць ненавідзець усё беларускае, ідуць у нейкія нацыянальныя секты, а найчасцей кідаюцца ў зніштажальнае нас шаптанае самаедства. У нашай традыцыі няма ўзораў адкрытага змагання пры захаванні нейкіх прынцыпаў і пашаны для канкурэнцыі, затое выступае ва ўсялякіх варыянтах чыстая азіяцкая хітрасць.

Кожная ўлада паспяхова кансервавала гэтыя традыцыі і знакаміта выкарыстоўвала нашы групавыя прыкметы. Пасля вайны польскія камуністы пачалі ствараць новы тып патрыятызму. Не адкідаючы культурнай польскай спадчыны, патрабавалі яны ад палякаў яшчэ толькі любові для сацыялізму і Савецкага Саюза. Палякі такую прымушанасць да кахання новай ідэалогіі і саюзніка ўспрымалі як гвалт над іх псіхікай. Ад беластоцкіх беларусаў патрабавалася такіх самых пачуццяў. Аднак у адрозненні ад палякаў „нашым людзям" пачуццё блізкасці Усходу, а затым і сацыялізму, было нечым натуральным.

У 1980 годзе салідарніцкі рух як бы рэанімаваў да грамадскага жыцця лозунг „Polak-katolik". Нашым людзям — праваслаўным веруючым і атэістам — салідарніцкая рэвалюцыя разбурыла ўсе падставы іх ідэалагічнага асэнсавання. Пачыналі яны ўжо адчуваць сябе амаль палякамі, калі палякі аб'явілі, што польскасць пабудаваная ёсць на зусім іншых структурах, чым ім здавалася. „Салідарнасць" знішчыла „нашым людзям" гарманічнасць, якую ў час ПНР мелі яны ў галіне палітыкі і светапогляду. У рэчаіснасці на Беласточчыне заіснавалі дзве катэгорыі палякаў — католікаў і усялякіх „рускіх прышыванцаў". Тыя другія ўспрымаліся першымі як элемент савецкага свету, супраць прысутнасці якога бунтавалася „Салідарнасць". Кожны, хто з беларуска-праваслаўнага асяроддзя дэклараваўся прыхільнікам салідарніцкага руху, ставіў сябе звонку „нашай" грамадскасці. З другога боку, туга па спакойным, простым, зразумелым пээнэраўскім светам стала асноўным паказальнікам палітычнай актыўнасці „нашых людзей". Беларускі фактар у гэтым палітычным краявідзе аказаўся малаважным і неістотным. Апошнія выбары развеялі таксама міф праваслаўя як незалежнай палітычнай сілы, аб'ядноўваючай люд гэтага веравызнання. Слабасць беларускага палітычнага руху спрыяе таму, што Беласточчына дзеліцца на каталіцка-салідарніцкую і праваслаўна-эсэльдоўскую. Небяспека гэтага стану заключаецца ў тым, што нейкія палітычныя канфлікты лёгка могуць пераносіцца на нацыянальна-рэлігійны грунт. З'яўляемся толькі элементам гульні, якая вядзецца без нашага ўдзелу.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

* * *

*Каля 100 дэлегатаў з усёй Беларусі прыняло ўдзел ва ўстаноўчым сходзе Беларускага саюза казакаў. Сход адкрыў малітвай асабісты прадстаўнік мітрапаліта Філарэта, але мала якія казак далучыўся да малітвы, хаця ўсе дэкларавалі падтрымку ідэалам Праваслаўя. Новая арганізацыя, па словах ініцыятараў, не збіраецца займацца палітыкай, а толькі патрыятычным выхаваннем моладзі. Невыпадкова ў зале былі патрыёты з лукашэнкаўскага патрыятычнага саюза моладзі.*



*Свабода, н-р 103*

*Васіль ГРОДНІКАЎ, журналіст*

# Менталітэт электарату,

## або Чаму браткі-беларусы такія "затурканыя"

Як сябе памятаю (а мне ўжо нямала год), у нас заўсёды любілі параўноўваць наша жыццё то з 1913 годам, то з 1940-ым, а зараз, калі стала некаторым выгадна, то і з застойнымі часамі. І зрэдку хто спрабуе зазірнуць у будучае наша жыццё.

Ну, напрыклад, калі б у нас пайшлі як след разумныя рэформы, калі б тыя, хто зверху, накіроўвалі нас дальнабачна і не ленаваліся думаць менавіта галавой, то праз 10—15 гадоў мая і ваша пенсіі дасягнулі б тысячы і больш долараў, зарплата кваліфікаваных рабочых і калгаснікаў — 2—2,5 тысячы, прафесара — 5—6 тысяч, дапамога беспрацоўнаму, скажам, была б 500 долараў у месяц.

А калі наш "рынкавы сацыялізм" і надалей будзе будавацца гэтак жа "паспяхова" (пра што так настойліва ўбіваюць нам у галовы прэзідэнцкія прапагандысты), то ў недалёкім будучым (праз 5—7 гадоў) заўчасна памру я і ўсе цяперашнія пенсіянеры і блізкія да нас па ўзросту, палова маладых людзей будуць нагадваць удзельнікаў "сухой" галадоўкі, астатняя палавіна — разбойнікаў з вялікай дарогі. Дзеці, у большасці сваёй, будуць з'яўляцца на свет рахітамі. Жанчыны будуць няздольныя нараджаць здаровых дзяцей. Згінуць калгасы і саўгасы, завянуць на карані парасткі фермерства, парастуць быллём тэрыторыі фабрык і заводаў і месцы, дзе калісь стаялі "камкі", апусцеюць школы і ВНУ, патухнуць ачагі культуры і навукі, знікнуць нават карткі на прадукты, бо прадуктаў хопіць толькі на шматлікія армію, прэзідэнцкую ахову, АМАП і на некаторыя прыбліжаныя да вярхушкі ар[illegible] ўстановы.

Затое будзе працаваць беларускае радыё на ўсіх хвалях, на ўсіх каналах будзе ісці толькі БТ, будуць выходзіць вялізнымі тыражамі дзяржаўныя газеты, усхваляючы прэзідэнта і яго наймудрэйшую палітыку эканамічнага і сацыяльнага ўздыму жыцця беларускага народа. Будуць статкамі хадзіць па вуліцах гарадоў і вёсак аманаўцы і галаварэзы з лукамола "Прамое дзеянне", выбіраючы сабе жывыя аб'екты для "перавыхаваўчай" работы пры дапамозе "дэмакратызатараў". Ну, прыкладна гэтак, як у Вайновіча...

А тыя, хто застанецца жыць, будуць хваліць вялікага "бацькуінтэгратара" за тое, што яшчэ жывуць, нешта такое ядуць, спрабуюць працаваць, хоць і не выдаюць зарплаты.

У сувязі з гэтым успомніўся мне адзін факт, які, я думаю, навядзе вас на адпаведны роздум.

Было гэта тады, калі наша славутая каўбаса каштавала два рублі. Стаяў я ў доўгай чарзе за гэтым крухмальна-мясным субпрадуктам. Стаяць трэба было доўга, а таму, каб збавіць час, разгаварыўся з адным дзедам, які заняў за мной чаргу.

— Як жыццё, дзядуля? — запытаўся я.

— А дзякуй Богу, ёсць хлеб і да хлеба...

Апасля мне падумалася: а калі б была магчымасць спытаць такога ж дзеда, скажам, у шаснаццатым стагоддзі, што б той адказаў? Адназначна, адказаў бы гэтак жа. А мінула з тае пары аж чатыры стагоддзі!

І для параўнання: хто будзе з вас у ЗША, Германіі, Швецыі ці ў якіх-небудзь Нідэрландах, спытайце, калі ласка, у такога ж дзеда пра яго жыццё-быццё. Ці пачуеце вы адказ, аналагічны беларускаму варыянту? Ніколі!

Мы гадоў сорак запар спрабуем вырашыць "продовольственную программу", каб накарміць свой народ. Нягледзячы на шматлікія пакугі, да сёньняшняга дня ніякіх зрухаў. Не дапамагаюць ні селектарныя шоу-нарады, ні верталётныя страх-рэйды, ні пагрозы-абяцанкі. Вось сапраўды невырашальная праблема! А не ў Сахары ці Эфіопіі жывём. На добрай урадлівай зямлі, дзе жывуць руплівыя і працавітыя людзі, асабліва на вёсцы.

Жыву на вёсцы і я вось ужо сёмы год. Маю такую-сякую гаспадарку на 25 сотках. Пасадзіў малады садок, ягаднікі. Астатняя зямля — пад бульбу, буракі, сенакос і выпас для коз і маладняку. Ёсць з дзесятак курэй, гадаваў парсюкоў такіх, што аж суседзі зайздросцілі. Ну, канешне, ёсць сабака і кот. Адным словам, жыву, як і большасць маіх аднавяскоўцаў. І, як той дзед казаў, ёсць хлеб і да хлеба, ёсць пакуль што чым прыняць гасцей, ёсць што даць і на дарогу.

Кожны дзень сустракаюся з вяскоўцамі, гамонім пра жыццёбыццё. Што хвалім, што клянём, а пра што і спрачаемся. І спрачаемся не таму, што, скажам, куры залезлі ў суседскі агарод, карова або каза патравы нарабіла ці за суседскія межы. Спрачаемся... на палітычныя тэмы. Сёння гэтыя спрэчкі не раўня іншым бытавым. Тут, бывае, кулакі ідуць у ход, сукравіцай мыюцца. А ўсё ад таго, што адны (іх большасць) дужа любяць Лукашэнку, а другія — на дух яго не пераносяць. Адны здымаюць іконы і вешаюць замест іх партрэт "бацькі", другія — карыкатуры на яго. Адны не адрываюцца ад рэпрадуктараў і экранаў БТ, амаль штодзённа слухаючы выступленні прэзідэнта, а другія купляюць тэлеантэны з узмацняльнікамі і глядзяць незалежныя тэлеканалы, як у сталінскія часы, шукаюць на кароткіх хвалях, на старонках нелюбімых "бацькам" газет жаданае слова праўды. Першых агортвае, як калісьці, страх перад начальствам, другія першых называюць мышамі, што хаваюцца пад венікам.

Адна мая суседка неяк папрасіла ў мяне пачытаць газеты, што я выпісваю, дык, як прызналася яна потым пашталёнцы, да ранку не магла заснуць: усё чакала, што вось-вось пастукае ў дзверы ўчастковы і адправіць яе за гэта туды, куды Макар цялят не ганяў.

Так, тут, у вёсцы, у прэзідэнта ёсць моцная падпорка. Так званы сельскі электарат, на які робіць стаўку "бацька", тут настолькі загіпназаваны, замбіраваны і запалоханы афіцыйнай прапагандай, што часам самыя пераканаўчыя і неабвержныя факты пра гібельнасць афіцыйнага курсу ўлад не выклікаюць у большасці сялян ніякіх супраціўных думак. Здаецца, што ўсе яны хварэюць на палітычны СНІД.

Хоць і жыву я сярод гэтых людзей і лічаць яны мяне ўжо за свайго, вясковага мужыка, але не да канца магу зразумець: як уладкаваны мазгі ў некаторых сялян, што яны ніяк не могуць спасцігнуць сваю ж спрадвечна мужыцкую ісціну: людзей слухай, а галаву сваю май. Ну, кожнаму слову, сказанаму па радыё ці тэлебачанні, надрукаванаму ў дзяржаўных газетах, вераць, як малое дзіця ў казку. Богу не вераць так, як вераць у салодкую хлусню афіцыйных СМІ. Ледзь што скажаш не так, як прынята цяпер гаварыць на вуліцы пра ўладу, у адказ пачуеш "неабвержны" доказ:

— Дык во і па радыё гаварылі, і ў газетах пісалі...

Або:

— Дык учора сам Лукашэнка пра гэта казаў...

Напярэдадні рэферэндуму чуў каля аўталаўкі (у нашай вёсцы магазіна няма, хоць тут двароў 80 будзе, хлеб прывозяць два разы на тыдзень):

— Чаму ж гэта так атрымліваецца, што ўсе непісьменныя за Лукашэнку, а пісьменныя, бачыш ты, усе супраць...

Пачнеш тлумачыць, абавязкова пакрыўдзяцца, што не падтрымліваеш іх думку, ды яшчэ са злосцю папракнуць:

— Бачыш ты, разумны знайшоўся...

І здзіўляешся: чалавек, які, апроч райцэнтра, нідзе не быў, ледзь чытае па складах, а каторы ўжо і літары забыўся, наадрэз адказваецца слухаць тлумачэнні чалавека з універсітэцкай адукацыяй, журналіста з саракагадовым стажам, які мае і жыццёвы, і такі-сякі палітычны вопыт, пабываў неаднойчы за мяжой і на свае вочы бачыў розніцу хвалёнага саўковага жыцця і жыцця людзей у "загніваючым" капіталізме.

Адно, што магчыма пачуць у адказ:

— Пазьняковец ты, а значыць, вораг наш...

Вось так. Ні больш ні менш. А гэта ўжо больш небяспечна, чым агульнавядомае "сам ты дурак".

Першае, што, на маю думку, можа патлумачыць сутнасць вясковага электарату, гэта тое, што вёска, апроч некаторых знешніх атрыбутаў, ніколькі не змянілася. Успомнілася чамусьці аналогія: дзікая яблыня, выкапаная ў лесе, будзе дзічкай і на прысядзібным участку.

Вось гэтае параўнанне выклікала ланцуг новых аналогій...

Але напачатку нешта накшталт загадкі. Пазнайце чалавека, чым ён займаўся, адкуль родам, калі я не назаву яго прозвішча, цяперашнюю пасаду, а ўзгадаю толькі некаторыя ягоныя ўчынкі.

Ну, дык вось...

На адным аўтарытэтным пасяджэнні, якое перадавалі на ўсю краіну, гэты чалавек другому паважанаму чалавеку на нейкае ягонае апраўданне крыкнуў з пенай у роце: "Вон адсюль!"

Гэты чалавек, выступаючы прылюдна, неаднойчы зневажаў народных дэпутатаў, называючы іх "вшивыми блохами", "дермократами", "гнилой интеллигенцией"...

Гэты чалавек, маючы надзвычай высокую ўладу, загадаў нязгодных з ім народных дэпутатаў вывалакчы з залы пасяджэнняў на вуліцу і даць ім там як след...

Гэты чалавек сваіх былых калег абвінавачвае пры ўсім народзе каго ў 15 крымінальных грахах, каго ў крадзяжы дзяржаўных цвікоў, каго ў арганізацыі эмбарга ў рэспубліку бавоўны... А пасля, калі ўсё гэта не пацвердзілася, ён не захацеў нават папрасіць прабачэння...

Гэты чалавек крычыць на ўсю краіну, што ён надзене наручнікі ўсім, хто яго не паслухаецца, пагражае нават тым, хто яшчэ і "не падумаў зрабіць" нешта кепскае...

Гэты чалавек пагардліва ставіцца як да народнага беларускага і сусветнавядомага пісьменніка, так і да сівога прафесара, лічыць сябе вялікім мовазнаўцам, хоць да філалогіі і не мае ніякага дачынення.

Калі сказаць, што такі чалавек мае дзве вышэйшыя адукацыі, то ў гэта цяжка паверыць.

Улічваючы хоць бы гэтыя факты, ці можна назваць гэтага чалавека выхаваным і культурным?

Ніяк нельга сказаць, што гэта дзяржаўны дзеяч. Нават малым дзецям вядома, што паводзіць сябе так нельга ні дома, ні на вуліцы.

Скажаце, што гэта чалавек з інтэлігентнай сям'і? Не, памыляецеся.

Гэта выхадзец з вёскі, гэта селянін, які ўвабраў у сябе ўсё, чым адметна была і ёсць наша вёска. Гэта тыповы выхаванец вёскі, які з матчыным малаком увабраў усё вясковае вулічнае, усё, што адбывалася і адбываецца на калгасным мехдвары, на фермах, сярод паляводаў, у вясковых кампаніях. Вы ж і самі добра ведаеце, што ў вёсцы не вельмі паважна ставяцца да такіх паняццяў, як культура, інтэлігентнасць. Тут, маю смеласць сцвярджаць, хутчэй за ўсё адбываецца нешта адваротнае. На вёсцы далёка не ўсе ў свой час паважалі і Кодэкс будаўніка камунізму, а зараз мала хто ведае, а тым больш прытрымліваецца божых запаведзяў. Тут свая, своеасаблівая культура паводзін, узаемаадносін, быту. Хоць слова "культура" тут не падыходзіць. Хутчэй — уклад, завядзёнка.

І калі наш прэзідэнт, не кантралюючы часам сябе і сваіх думак, махае кулакамі, абражае і пагражае, — тут, у вёсцы, яго прымаюць на "ўра!": во дае; во малайчына; так ім і трэба; я б іх, гадаў, усіх бы да сценкі паставіў; гэтых дэмакратаў круціць у бараноў рог; гэты за нас, таму што і гаворыць так, як мы, і думае так, як мы...

А што не інтэлігентна выражаецца, што абражае, што палохае на кожным кроку ўсіх не згодных з ім, што загадвае аманаўцам збіваць на вуліцы людзей і хапаць іх у "варанкі", выганяе з краіны "нячэсных" на яго думку дыпламатаў і журналістаў, то што тут такога? Як умее, так і правіць...

Тут, у вёсцы, людзі не задумваюцца над тым, што ўсё гэта не да твару прэзідэнту, што ва ўсім свеце прыняты іншыя нормы і правілы, што той свет жыве па іншых гуманных законах. І ў рэшце рэшт там чалавек даўным-даўно не думае пра кавалак хлеба ці каўбасы, як у нас. Там не думаюць пра тое, што прэзідэнт краіны — гэта нешта большае, чым старшыня калгаса ці дырэктар саўгаса. Там прэзідэнтаў паважаюць, а не баяцца. А ў нас прывыклі бачыць на чале краіны ўзурпатара, моцную руку, гаспадара, вялікага начальніка, якому ўсё дазволена. І калі, на іх думку, нешта не так, то паблажліва разважаюць: "Ён там на версе, мужыкі, яму там відней".

Сяляне не могуць і не хочуць разумець тых норм і правілаў, тых гуманных законаў і культурных норм паводзін, што з'яўляюцца неад'емнай часткай жыцця цывілізаваных краін. Яны ўспрымаюць усё так, як заведзена спрадвеку ў вёсцы, асабліва ў савецкія часы. І калі, крый Божа, прэзідэнт дазволіць сабе ў эфіры ці ў газеце накрыць каго-небудзь нецэнзурнымі словамі, а прасцей кажучы, матам, сяляне будуць рукапляскаць, хадзіць з хаты ў хату і пытацца: "Ці чуў, што "бацька" сказаў? Во малайчына! Так ім і трэба!"

Часам даводзіцца слухаць захапленні, што прэзідэнт выдатна ведае і валодае сялянскай аўдыторыяй, то тут, мне здаецца, асабліва здзіўляцца няма чаму. Ён вырас у гэтым асяродку. Ён такі, як і яны. Асаблівасць у тым, што ён выступае перад імі як старшыня калгаса, а сам электарат інтуітыўна надае тым словам адпаведную значнасць: гэта — гаспадар, кіраўнік краіны, надта вялікі начальнік, яго трэба слухацца і паважаць, а то, крый Божа...

Так ужо павялося спрадвеку, што селянін не можа абысціся без начальства, без нагляду. Яму трэба, каб ім кіравалі, панукалі, прымушалі, падказвалі, як і што рабіць. Сяляне ў асноўным не прымаюць свабоду, дэмакратыю, рэформы. Гэта для большасці з іх рэчы пакуль што недасягальныя.

Мне яшчэ з басаногага дзяцінства помніцца факт, пра які расказваў наш сусед, якому тады было год, можа, удвая больш, чым майму бацьку. Дык вось, дзед успамінаў, як з суседняй вёскі, з Дарагунска, што на Рагачоўшчыне, недзе перад самай першай сусветнай вайной мужыкі паслалі хадакоў да губернатара ў Магілёў, каб той прыслаў ім пана, бо ранейшы памешчык з'ехаў за мяжу і ў наваколлі запахла духам свабоды. Прыслалі. Праўда, ненадоўга... Затое год праз пятнаццаць да сёньняшняга дня паўсюдна

# Дэмакраты лаюцца, а нехта цешыцца

«ЗВЯЗДА»

Устаноўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ) самі арганізатары мерапрыемства назвалі аднаўленчым. І не выпадкова. Хаця гаворка сёння ідзе пра стварэнне юрыдычна новай палітычнай арганізацыі, на самай справе гэта не што іншае, як спроба адрадзіць тую партыю, якая існавала ў краіне на працягу 1991—1995 гадоў.

Але задоўга да першай сесіі з'езда было зразумела, што яго правядзенне будзе далёка не простым. І не толькі таму, што людзі, якія ўвайшлі ў аргкамітэт ствараемай партыі, не сімпатызуюць сённяшнім уладам Беларусі і не падтрымліваюць той палітыкі, якая праводзіцца зараз у краіне. Як ні дзіўна, моцная крытыка ўзнікла з боку ідэйных аднадумцаў.

...БСДГ упершыню была заснавана ў 1991 годзе. Тады прадстаўнікі беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, якія аб'ядналіся вакол вядомага Міхася Ткачова, ствараючы партыю, ставілі мэтай прадаўжэнне традыцый беларускай сацыял-дэмакратыі пачатку XX стагоддзя. Партыя была аб'яўлена пераемніцай Беларускай сацыялістычнай Грамады і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Пасля смерці М. Ткачова кіраўніком БСДГ стаў навіцца Алег Трусаў. Цяжка сказаць, якіх якасцяў не хапала дэпутату Вярхоўнага Савета, але пад яго кіраўніцтвам партыя не толькі страціла імпульс развіцця, але пакрысе пачала здаваць пазіцыі на палітычным небасхіле. Мусіць, гэта і стала асноўнай прычынай таго, што месца Трусава ў 1995 годзе заняў больш энергічны Мікола Статкевіч.

Палітыка, якую пачало праводзіць новае кіраўніцтва арганізацыі, адразу не спадабалася пэўнай частцы сяброў БСДГ. Асабліва негатыўна была ўспрынята спроба стварэння з шэрагам іншых партый адзінага сацыял-дэмакратычнага блока напярэдадні парламенцкіх выбараў. Можна было нават казаць пра нейкі ўнутраны раскол у партыі. Ён выліўся ў адкрыты тады, калі БСДГ аб'явіла правядзенне аб'яднаўчага з'езда з Партыяй народнай згоды. М. Статкевіча пачалі абвінавачваць у здрадзе інтарэсам сацыял-дэмакратыі і супрацоўніцтве з ідэйнымі ворагамі. Тым не менш, з'езд адбыўся, і на аснове БСДГ і ПНЗ была створана адзіная арганізацыя — Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада). Яе старшынёй стаў М. Статкевіч, а партыя заявіла аб захаванні пераемнасці традыцый сацыял-дэмакратыі, што ўвасобілася ў яе назве, і нязменнасці ранейшага палітычнага курсу. Нягледзячы на гэта, у новую партыю так і не ўступілі людзі, якія былі ў асабістай апазіцыі да Статкевіча. Менавіта яны сёння і імкнуцца адрадзіць БСДГ. Трэба таксама сказаць, што частка членаў ПНЗ, якая таксама не адобрыла аб'яднання, у пачатку гэтага года стварыла Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю народнай згоды, якую ўзначаліў член Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Леанід Сечка.

Аднаўленне Грамады не абышлося без скандалу. Хаця прадстаўнікі БСДП НГ усяляк адмаўляюць сваю нездаволенасць дзеяннямі былых калег па партыі і кажуць, што гэта іх моцна не хвалюе, на самай справе яны не былі зацікаўлены ў падобным развіцці падзей. Таму паспрабавалі стварыць адмоўны імідж сваім візаві і нават нейкім чынам перашкодзіць правядзенню з'езда. Другі бок адрэагаваў шэрагам крытычных публікацый і абвінавачанняў. Словам, замест таго, каб умацоўваць шляхі супрацоўніцтва паміж існуючай партыяй і аргкамітэтам ствараемай арганізацыі, бакі разгарнулі моцную міжусобную перапалку, якая, да таго ж, вылілася на старонкі друку. Уяўляю, як пацірালі рукі тыя, каму сапраўды развіццё дэмакратычных інстытутаў у нашай краіне як костка ў горле.

З-за чаго ж выйшла перапалка? Станіслаў Шушкевіч, які абраны лідэрам БСДГ, пацвердзіў «Звяздзе», што «акрамя дробязяў, прынцыповых разыходжанняў у нас з БСДП НГ няма». Але што тады перашкаджае аб'яднацца пад адным сацыял-дэмакратычным дахам і не пладзіць маленькія і неўплывовыя партыйкі? Бо відавочна, што гэта не робіць гонару дэмакратам як у вачах звычайнага беларускага выбаршчыка, так і за мяжой. Экс-спікер сцвярджае, што БСДП НГ «заплямлена» супрацоўніцтвам з людзьмі, якія зараз знаходзяцца ў камандзе прэзідэнта. Ён абвінавачвае «тых» сацыял-дэмакратаў у здрадзе нацыянальным інтарэсам. «Тыя» ў сваю чаргу абвінавачваюць у былых грахах Шушкевіча і яго аднадумцаў. Такім чынам, плённа працягваць традыцыі першых сацыял-дэмакратаў Беларусі не дазваляе мінулае сённяшніх беларускіх палітыкаў, якія прэтэндуюць на галоўныя ролі ў гэтым уплывовым сусветным руху. А закрыць вочы на дробныя недахопы дзеля будучыні ніводзін бок аніяк не згаджаецца. Вось і цягне кожны на сябе цёплую коўдру сацыял-дэмакратыі, пакуль тая не трэсне...

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# «А ШТО РАБІЦЬ? ТРЭБА ЗМАГАЦЦА...»

У студзені 1997 году быў у Менску. У першы-ж дзень, ледзь ня трапіў у пастарунак, хоць здаецца, з майго пагляду, нічога не парушыў. Проста ішоў па вуліцы. Праўда, размаўляў на беларускай мове, ды меў на кашулі значок з бел-чырвона-белым сьцягам. Падобныя значкі я нашу паўсюль і заўсёды ўжо з 1991 году, а на беларускай мове размаўляю заўсёды, калі прыяжджаю на Беларусь. Даў зарок: на Бацькаўшчыне размову весьці хоць з кім, толькі на роднай мове. Лічу, што маю права! Абрыдла мне гэтая іншаземная — руская! Хоць у родным краі даць сабе палёгку.

Аднак таго, што я прыехаў з Сібіры, ды праявіўшы настальгію, усьцешыўся гучаньнем беларускай мовы, ня ведаў той міліцыянер, што меціўся затрымаць мяне. Калі я да яго падыходзіў, я нават не меркаваў, што прыйдуся яму не даспадобы. Ён стаяў з нейкімі хлопцамі ў цывільным. Размаўляючы на беларускай мове са сваім спадарожнікам і наблізіўшыся да яго на пяць крокаў, я пачуў: "Совсем абнаглелі, ходзюць тут са сваімі значкамі!" Што гэта датычыцца мяне, я спачатку і няўцяміў. Аднак параўняўшыся са мною, той схапіў мяне за рукаў, брудна вылаяўся і сказаў: "Ты... што не понял?" Тут я ўсё зразумеў. Аднак спрачацца, тым больш разважаць з ім зусім не хацелася. Добра што падасьпеў тралейбус і я, выдзернуўшы сваю руку, са знаёмым ускочыў у яго. Мой спадарожнік, бацька майго сябра, якому я прывёз з Іркуцка прывітаньне, нічога не зразумеў. "Што ты зрабіў?" — запытаўся той. "Нічога... Мабыць палічылі за БНФаўца" — адказаў.

Праз колькі дзён сустрэўся я з вядомай паэткай Антанінай Хатэнка. Ад яе ўпяршыню пачуў дзіўнае слова: "Акупацыя". Казала яна гэта з вялікай безнадзейнай роспачу. Я спрабаваў яе падбадзёрыць, даводзіў, што сумленных беларусаў шмат, асабліва ў Менску. А яна сваё: "Акупацыя. Праз некалькі год улады зьнішчаць апошнія парасткі беларушчыны". Мне не хацелася ў гэта верыць. Але...

Я выехаў назад у Сібір. І што я чую! Інтэграцыя. Беларусь у склад Расіі. Лукашэнка ўрачыста сустракае "дэлегатаў народаў СССР", а прасьцей розных камуністаў. У той-жа час аўна не жадае правядзеньня ІІ-га зьезду Беларусаў Сьвету і пагражае: ня дай Бог будзе крытыка ў мой адрас. Васіль Быкаў аб'яўлены ледзь не "ворагам народа". У апошняга беларускамоўнага ліцэя хочуць адабраць будынак. Людзей на мітынгах зьбіваюць, саджаюць у турмы. У той-жа час пускаюць хлусьню: "Што мітынгоўцам ЦРУ па 5 даляраў у гадзіну выдае" і г. д.

Цяпер і я ўпэўнены. У Беларусі — Акупацыя! Вораг захапіў нашу краіну! Нашу любую Бацькаўшчыну! Ён зьдзекуецца з сумленных беларусаў, зьдзекуецца з беларускай мовы і праводзіць пэўную лінію на зьнішчэньне беларусаў у цэлым. Дык што-ж рабіць у такіх умовах? Мой сусед мае прымаўку: "А што рабіць? Трэба змагацца!" І я з ім згодны. Змагацца трэба! Ды як? Здаецца супроць Лукашэнкі ўжо аб'ядналіся ўсе: і камуністы, і БНФаўцы, і вядомыя палітыкі, і сумленныя пісьменьнікі. А яму, хоць-бы што. На мітынгі выходзіць усё менш і менш людзей. У большасьці роспач. Некаторыя ўжо зьехалі з краіны. Незалежныя газэты (радыёстанцыяў і тэлеканалаў ужо няма) у кожным нумары крычаць ратунку: "Лукашэнка даводзіць Беларусь да галечы!" Вядомыя эканамісты, гісторыкі, літаратары пішуць вялікія артыкулы, даводзячы: прэзыдэнт — кепскі. Аднак, хто іх чытае? Толькі тыя, хто гэта і так ведае. Дык каго-ж мы пераконваем? Самі сябе. А "той" сваю справу робіць. Мы губляем Беларусь з кожным днём, з кожнай гадзінай.

### Дык што-ж рабіць???

Я — гісторык. Прычым належу да тых гісторыкаў, якія кажуць, што гісторыя паўтараецца, што яна разьвіваецца па сьпіралі. Гэта спрэчна? Магчыма. Аднак сёньняшняя сытуацыя на Беларусі (ва ўсякім разе падобная) ўжо была і не аднойчы. Вораг таптаў нашу зямельку і нішчыў беларускую нацыю, забараняючы і мову, і праўдзівую гісторыю.

Кожнага разу пасьля націску ворага, беларусы нанова падымаліся. Нас не маглі зламаць ні высылкі ні сьмяротныя кары. Якое-б ліхалецьце не было, знаходзіліся людзі, якія ўзьнімалі Народ супраць Ворага. Але з чаго яны пачыналі? Пераконвалі адзін аднаго ў патрэбнасьці барацьбы? Не! Яны будзілі сялянаў, местачкоўцаў, тлумачылі "цёмнаму" люду, што да чаго! А як яны гэтае рабілі? Пісалі навуковыя артыкулы? Не! Яны пісалі байкі, камэдыі, вершы, апавяданьні, розныя "гутаркі" у форме дыялёгаў, прычым рабілі гэта на "мужыцкай мове", на той мове, якую разумее, якую жадае чуць просты люд. Дарэчы, Лукашэнка ня блага карыстаецца ёю, таму й папулярны ў народзе. А як падпісваліся гэтыя "творы"? Знакамітымі прозьвішчамі дактароў навук? Не!




Сяляне не захочаць чытаць словы не свайго чалавека. Кастусь Каліноўскі не пісаў пра сваю адукацыю, а падпісваўся "па-мужыцку": "Гаспадар Яська з-пад Вільні". Францішак Багушэвіч не пісаў, што ён цудоўны юрыст, а падпісваўся "па-просту" - "Мацей Бурачок"...

Ну, а як распаўсюджвалі свае творы адраджэнцы? Друкаваліся ў апазыцыйных, цэнтральных, якасных газэтах кшталту "Свабода" ці "Народная Воля", пра якія Лукашэнка (па-тэлебачаньні!) "ясна сказаў", што яны прадаліся ЦРУ? Ды не! Гэтыя творы выходзілі вялікімі тыражамі на кепскай паперы, а не дык перапісваліся ад рукі, ды падсоўваліся кожнаму сустрэчнаму. Менавіта падсоўваліся.

Я ўпэўнены: пакуль асноўная маса насельніцтва будзе "талерантнай", г.зн. абыякавай, датуль марыць пра сапраўднае Адраджэньне нашай Бацькаўшчыны немагчыма! Зараз Вораг адзін - Правячы Рэжым. І зь ім трэба змагацца ягонымі ж мэтадамі. Ён крычыць, што БНФаўцы - белапалякі, якія атрымліваюць вялікі заробак ад ЦРУ. А мы павінны распаўсюджваць анэкдоты, байкі, эратычныя навэлы, калі хочаце, і т.п. пра дзейнасьць і жыцьцё "вярхоў".

Гэта не этычна? Чакайце, панове. Каго нам шкадаваць? Ворага? Дык мы яго павінны ненавідзець!

У эфэктыўнасьці анэкдотаў я ўпэўніўся сам. Тут, у Іркуцку, у мяне часта пытаюцца: "Як там у Беларусі? Малайцы, што аб'ядноўваецеся!" А я ім у адказ: "Ведаеце, што кажуць зараз беларусы? Яны кажуць: "Зараз хуценька з Расеяй аб'яднаемся, потым абярэм Лукашэнку агульным прэзыдэнтам, затым рэзка аддзелімся, - няхай ён там у гэтай Расеі кіруе!" Пасьля маіх словаў большасьць задумваецца, а некаторыя адразу ж робяць выснову: "Не, нам такога ня трэба!"

А аднойчы, на імпрэзе ў абласной адміністрацыі, я расказаў такі анэкдот, прычым выдаў яго за праўду: "Чулі, што І красавіка Ельцын і Лукашэнка падпісалі ўказ, дзе ў адным з пунктаў гаворыцца, што ва ўсіх навучальных установах Беларусі ўводзіцца абавязковае вывучэньне рускай мовы. (Усе згодна заківалі галовамі.) А на тэрыторыі Расеі — абавязковае вывучэньне беларускай мовы!" Тут некаторыя ўсьміхнуліся, некаторыя зрабілі занадта круглыя вочы, а адзін, які раней больш за ўсіх хваліў гэтую "інтэграцыю", залямантаваў: "Як гэта?! Ды не можа быць? Навошта ж нам тая беларуская мова?" Адказваю: "А як бы Вы хацелі? Інтэграцыя павінна быць у абодва бакі." Дык той аж пабялеў. Давялося мне яго супакойваць: "Першага красавіка гэты Указ выйшаў, а не другога." Тут усе зарагаталі.

І такіх прыкладаў я магу прывесьці шмат. А ці назіраецца такое на Беларусі? Здаецца, не! У 1994 годзе, яшчэ да выбараў, я быў у свайго сваяка пад Воршай. Той узначальваў цэх на адным з заводаў. Аднойчы ён занадта позна вярнуўся дадому й быў моцна ўзрушаны. Распавёў: "Быў агульны сход. Выступіў дырэктар завода з прызывам-загадам, каб усе ўступалі ў нейкую партыю, якая вылучае ў прэзыдэнты А.Р.Лукашэнку. Прычым узносы плаціць ня трэба. Гэта будзе рабіць завод. Яны ж павінны толькі аддаць свае галасы за А.Р. А той, хто не захоча гэтага зрабіць, можа адразу пісаць заяву на звальненьне". Тады мой дзядзька выстаяў. І ў партыю не запісаўся, і за А.Р. не галасаваў. Зараз жа ён глядзіць з замілаваньнем Беларускае тэлебачаньне пра "сацыялістычнае спаборніцтва камбайнёраў", з задавальненьнем чытае "Советскую Беларусь" пра "рост нашай эканомікі" і абсалютна згодны з "кіруючай лініяй" таго самага А.Р. Праўда, ён сам не атрымлівае заробку ўжо 8 месяцаў (гэта было ў жніўні 1996 г.), а ягоную жонку ўжо год як скарацілі зь мясцовага атэлье. І ўсё ж такі ён верыць А.Р., што гэта мясцовыя бюракраты вінаватыя ва ўсім, што А.Р., як можа, змагаецца зь імі, што ворагі Беларусі перашкаджаюць яму, аднак яшчэ крыху пацярпець - і перамога будзе на "нашым" баку. Я шмат зь ім размаўляў. Хацеў пераканаць: вінаватыя не "бюракраты", а сістэма, якую ўзначальвае той самы А.Р. Даводзіў: "Вось піша "Свабода"..." Чую у адказ: "Хлусня!". Казаў: "Выступаў Быкаў..." - "Здраднік гэты Быкаў!" "Вось жа пішуць у расейскай прэсе..." - "Гэта яны зайздросьцяць нам і мафія расейская

# ПАХАВАННЕ СЯБЕ?

ЗВЯЗДА

**1**

Калісьці Аляксей Талстой (не блытаць з аўтарам «Пятра I») гаварыў пра расійскую гісторыю ў тым сэнсе, што калі ён думаў аб яе прыгажосці да манголаў, то яму хацелася качацца па зямлі ад бяссільнага болю. Тым не менш, Расія ёсць, як ёсць руская мова, руская культура, урэшце, руская ж гісторыя. Можна па-рознаму ставіцца да гэтага, да самой краіны, да яе народа — тэма для беларуса даволі тонкая, але факт ёсць факт. Яны — ёсць.

А ці ёсць — мы? Я маю на ўвазе людзей, якія насяляюць пэўную, абмежаваную памежнымі слупамі, тэрыторыю пад назвай Беларусь. Верагодна, мы чыста аўтаматычна называем сябе беларускім народам? Шведы жывуць у Швецыі, таму называюць сябе шведамі, мы жывём у Беларусі і называем сябе беларусамі — па аналогіі. Чым, значыць, мы горшыя за іншых? Ці ўсё ж шведы укладваюць у сваю назву больш глыбокі сэнс?

Увогуле, ці ёсць у нас падставы так сябе называць?

Сакрат Яновіч недзе пісаў, за дакладнасць галаву на адсячэнне не дам, але сэнс такі: яму надакучыла гаварыць і пісаць пра адраджэнне, іншы раз проста сорамна лічыць сябе беларусам. Ну дык гэта Яновіч. Як гаворыцца, яму па штату належыць усё гэта перажываць так балюча. Прыкладна так сказаў бы просты беларускі народ, калі б ведаў пра існаванне Яновіча. Але ён не ведае і ведаць не хоча. Народ пераважна спіць спакойна. У народа ў гэтым сэнсе сумленне чыстае.

Але — сон розуму нараджае пачвар...

**2**

Я, дарэчы, не магу дакладна сказаць, хто я па нацыянальнасці. У пашпарце запісана — беларус, прозвішча чыста рускае. Да 1926 года наша мясцовасць увогуле ўваходзіла ў састаў РСФСР. У той жа час, па даследаваннях этнографаў і гісторыкаў гэта тэрыторыя, на ўсход ад Гомеля, з'яўляецца гістарычным арэалам пражывання беларусаў. Да таго ж вядома, што часта прозвішчы беларусаў у памежжы з Расіяй запісвалі на рускі манер: быў Грыб — стаў Грыбаў, быў Іванец — стаў Іванцоў і г. д. Думаю, складанасці з паходжаннем ёсць не толькі ў мяне...

Верагодна, важней не анкета, а проста адчуванне — хто ты ёсць вось сёння. Нацыянальная свядомасць. Ці самасвядомасць. Але як цяжка было прарывацца да гэтага ўсведамлення: я — беларус...

Дагэтуль памятаю першую практыку ў раённай газеце, пісанне заметак з дапамогай стоса слоўнікаў, працэс, мала сказаць, пакутлівы. Так бы мовіць, вынік усеагульнай сярэдняй адукацыі ва ўмовах БССР. А ў атэстаце: беларуская мова — 4, беларуская літаратура — 5. Верш на экзамене мне трапіўся знаёмы, вось і «пяць». Гэтыя прозвішчы, слаўныя і большасцю забытыя — Дунін-Марцінкевіч, Багдановіч, Цётка, — праплывалі міма свядомасці, як праплываюць воблакі над галавою.

І толькі тады, калі мова спатрэбілася практычна, дзеля, прашу прабачэння, кавалка хлеба, — вось тады яна ў мяне ўвайшла лёгка і без праблем. (Можа быць, самы эфектыўны спосаб вывучэння мовы...) Мне не сорамна ў гэтым прызнавацца — што было, тое было. Але запісвацца ў «шчырыя беларусы» таксама не спяшаюся: не хапае ідэйнага «багажу». Лічыце мяне сярэднестатыстычным. Можаце нават спытаць, дзе я быў 19 жніўня 1991 года. У адпачынку.

Я думаю пра іншае. Я думаю, што сёння проста пісаць, размаўляць, думаць па-беларуску — ужо ўчынак. Калі хочаце — пратэст. Аднак закрадваецца сумненне: хоць на гэта мы здольныя? Хто будзе пратэставаць — некалькі тысяч? Паспрабуйце растлумачыць гэтыя тонкасці суседу па лесвічнай пляцоўцы, які да пенсіі будзе радавацца, што ўцёк з вёскі.

Ён нават не зразумее: аб чым гэта вы?

**3**

Пытанне стаіць так: калі беларускай мове не створыць умоў для існавання, то яна знікне. Разам з ёю аўтаматычна знікне краіна Беларусь. Вось перспектыва: праз сотню-дзве гадоў нашу мову будуць вывучаць як старажытнагрэчаскую альбо лацінь. Сумніўны, трэба сказаць, гонар.

Мне скажуць: прыняты закон аб двухмоўі. Я адкажу, што гэта бомба замаруджанага дзеяння, што гэты закон канчаткова паставіць крыж на беларускай мове. Падумайце добра, якую мову — рускую ці беларускую — вы выбераце для сябе і сваіх дзяцей, калі паўсюдна, найперш у дзяржаўных установах і амаль ва ўсіх школах, гучыць мова суседняй дзяржавы? Вы ж не ідыёт, правільна? Вы нармальны чалавек і вымушаны прыстасоўвацца да абставінаў. Значыць — руская. Значыць — вы ўжо не беларус і можаце смела мяняць запіс у пашпарце на адпаведнай старонцы. А якая вам розніца? Вы і да гэтага былі інтэрнацыяналістам. Дакладней, касмапалітам. Ды і тое сказаць, у каўбасы таксама няма нацыянальнасці. Каўбаса — яна і ў Афрыцы каўбаса.

Калі ж вам бліжэй родная мова, то трэба ісці ў «партызаны». Трэба рыхтавацца да пікетаў, затрыманняў, здзекаў некаторых паўпісьменных міліцэйскіх сяржантаў, мільённых штрафаў і падобнага ж кшталту «рамантыкі». Што? Перабольшваю? А гісторыя з беларускім ліцэем? Бацькі хацелі элементарнай рэчы: каб іх дзеці вучыліся на беларускай мове. А іх за гэта ў «варанкі». Нядаўняя, дарэчы, гісторыя. Я думаю, далёка не апошняя.

Таму што ў дзяржаве, што б пры гэтым ні гаварылася, праводзіцца палітыка асіміляцыі. У канцы XX стагоддзя гэта, верагодна, адзіны ў свеце выпадак...

**4**

Не хочацца быць галаслоўным нават у артыкуле, па тону эмацыянальным.

У 1995—1996 гг. у Гродне было 27 беларускамоўных школ, цяпер засталося тры. У Мінску два гады назад 130 школ мелі статус беларускіх, сёлета — 17. Толькі за год у Гомельскай вобласці колькасць рускамоўных школ павялічылася з 14 да 60 працэнтаў, у Віцебскай — з 18 да 42, у Магілёўскай — з 17 да 42 працэнтаў. Гэта даныя 1995 года, зараз, трэба думаць, паказчыкі выраслі. Даныя, дарэчы, не сакрэтныя, яны прыводзіліся Генадзем Бураўкіным, старшынёй Таварыства беларускай мовы.

Сказаць, што школы мяняюць мову навучання ў загадным парадку — такога не скажаш. Усё і складана і проста. Тут, трэба сказаць, узаемнае імкненне: бацькам усё роўна, ці бацькі жадаюць, каб дзіця навучалася на рускай мове — а ўлады толькі афармляюць гэтыя жаданні. Я думаю, такое становішча з беларускімі школамі не стварылася б ніколі, калі б гэтага не хацелі самі бацькі. Такая рэальнасць. Тыя самыя бацькі, нармальныя людзі, якія вымушаны прыстасоўвацца. Калі хто і падвядзе канчатковую рысу пад гэтай краінай, то якраз нармальныя людзі.

На працягу мінулага навучальнага года (верасень 1995 г. — май 1996 г.) у кніжных магазінах адсутнічала літаратура для школьнікаў і дашкольнікаў. Не было элементарных хрэстаматый, выбраных твораў Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі, Макаёнка, Маўра, Быкава. Немагчыма было купіць «Беларускія народныя казкі». Здаецца, там няма ніякай ідэалогіі. Выдавецтва «Юнацтва» выпусціла за мінулы год толькі 9 найменняў. Куды ехаць далей? Я не ведаю...

**5**

Ёсць два месцы, дзе чалавек мае магчымасць, калі можна так сказаць, адчуць сваю нацыянальнасць: сям'я і школа. Сям'я размаўляе, у лепшым выпадку, на дрэннай рускай мове, у горшым — на «трасянцы». Большасць насельніцтва адарвалася ад каранёў, але нікуды не прыйшла. Ці, дакладней, прыйшла да пралетарскага інтэрнацыяналізму, монстра, які ў нас аказаўся такім жывучым.

Адукацыя? Рускамоўная адукацыя ў нас заўсёды была і застаецца на больш высокім узроўні. Ніякага сакрэту няма. Натуральна, нармальны чалавек выбірае менавіта яе. Пры ціхім, але настойлівым падштурхоўванні пад лозунгам роўнасці дзвюх моў. Так, агульнымі намаганнямі на паняцці «беларуская мова» ставіцца вялізны тлусты крыж.

Мне не хацелася б паглыбляцца ў аналіз прычын існуючага становішча, гэта зроблена і без мяне, і на больш высокім узроўні. Варта толькі нагадаць вядомую формулу: няма мовы — няма нацыі — няма краіны. Формула неаднойчы пацверджана. Канешне, і да нас народы знікалі, асіміляваліся. Але цяпер, у XX стагоддзі, калі працэс стварэння нацый даўно завершаны, у тым ліку, нацый невялікіх (скажам, нарвежцаў яшчэ менш, чым нас, недзе 4 мільёны), усё гэта выглядае, мякка кажучы, дзіўным.

Міжволі прыходзяць сумныя думкі. Можа быць, мы і сапраўды не заслужылі называцца нацыяй, мець сваю адметную дзяржаўнасць, сваю культуру, сваю мову, быць, урэшце, самімі сабой, наша доля — быць манкуртамі? Меў, значыць, рацыю Яновіч, сорамна быць беларусам?

Парадокс сітуацыі ў тым, што гэтыя радкі друкуюцца ў газеце, якая засталася адна ў Беларусі, што выходзіць штодзённа на беларускай мове.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



## КРЫЎДА «ЗАСЛУЖАНАЙ»

Ніл Гілевіч

Бабуля, што ўчора з экрана блакітнага
Ад імені класа кляйміла «ўрагоў», —
Сягоння ў бальніцы, між люду паніклага;
І крыўда на Бога — аж прэ з берагоў:
«Паўвека я племя Купалы праклятае
Знішчала, за фактам фіксуючы факт.
Да тысячы роўна дагнала. І на табе:
На тысяча першым падрэзаў інфаркт!..»

## Вось такія мы <<патрыёты>> Бацькаўшчыны

**Зусім нядаўна расейская газета «Известия» паведаміла чытачам, што грамадзянін Беларусі, «пастаянна пражываючы ў Канадзе» Георгій Астроўскі выказаў жаданьне аказаць дапамогу маскоўскаму баскетбольнаму клубу ЦСКА: стаць саўладальнікам мужчынскай і жаночай камандаў, неадкладна аплаціць усе выдаткі і запазычанасьці.**

Для ўзмацненьня ЦСКА Астроўскі прапануе выкарыстаць паслугі трох маладых беларусаў, якія гуляюць за адзін амерыканскі ўніверсітэт. Грошай, відаць, хапае, бо, як піша газета, у «новага беларуса» пятнаццаць заводаў будаўнічых матэрыялаў на тэрыторыі Беларусі, Расеі ды Латвіі, і на ўтрыманьне клубу хопіць аднаго-двух. А яшчэ ён, відаць, чалавек сур'ёзны, бо пасьля заканчэньня матчу з «Рэалам», у якім ЦСКА атрымаў перамогу, выплаціў баскетбалістам прэміяльныя.

Грошы, як вядома, не пахнуць, і бізнэс можна рабіць на ўсім і ўсюды, але неяк усё ж дзіўна, што беларус за свае грошы і з дапамогай гульцоў-беларусаў хоча выратаваць гонар занядбанай каманды суседняй дзяржавы. Можа варта было б паспрабаваць стварыць нешта на Бацькаўшчыне.

Газета ўсё ж сумняваецца, што кіраўніцтва ЦСКА пагодзіцца на прапанову, нават пры ўмове, што фундатар зь 75 працэнтаў запатрабаваных акцыяў 24 вырашыў проста перадаць ветэранам клубу. Звычайна чыноўнікі любяць грошы, але ў дабрачыннасьць не гуляюць.

Застаецца толькі меркаваць, што спадар Астроўскі цудоўна ведае беларускую рэчаіснасьць, і яго палохаюць умовы разьвіцьця бізнэсу ў нас.

**Арцём Бегавік**

І «Известия» часамі любіць пажартаваць.

* * *

*Wysoką pozycję Wappy na liście krajowej UP zmobilizowała Sojusz Lewicy Demokratycznej do umieszczenia na 40 miejscu Jana Syczewskiego, przewodniczącego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, starej peerelowskiej organizacji pryncypialnie zwalczanej przez młodych ze Związku Białoruskiego. W tak potężnym ugrupowaniu jak SLD było to równoznaczne z poselskim mandatem. Z listy okręgowej do Sejmu wszedł także inny członek BTSK — Siergiej Plewa. Oni dziś stanowią reprezentację białoruską w parlamencie.*

*Syczewski uważa, że w demokratycznym państwie narodowość jest kategorią emocjonalną, a nie polityczną. Konstytucja zapewnia mniejszościom prawa na odpowiednim poziomie, nie ma więc obiektywnej potrzeby walki o nie, a więc także jednoczenia się wokół haseł narodowych.*

*Kurier Poranny, nr 232*

Сп. Сычэўскі са сваімі паглядамі лепш падаваўся-б у "лукашэнкаўскі парлямэнт".

**КАЛЯДНАЕ выданьне газэты заплянавана на 12 стр... Пастарайцеся прыслаць ахвяру на сьвяточны № газэты! Дзякуем!!!**